№ 47 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 47 (243). Год III. Вільня, 11 чэрвеня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 10 чэрвеня.

Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Між Арр і Альбэр, на поўдні ад Соммы і на Авр артылерыйская бітва ўзмацавалася. Ажыўленые разьведкі.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Энэргічнай атакай мы ўчора ўварваліся ў гарыстые ваколіцы Нуаён. На заходзі Матс мы здабылі францускіе пазыцыі пры Мортнэ-Орвіле і прабіліся за лініюКівіле-Кікбур. На ўсходзі ад Матс узяты вяршыпы Гіры. Ня гледзячы на сільны адпор ворагаў, пяхота прабіла сабе дарогу праз лясы Кікбур і Лямот і адкінула ворагаў за Мурмон—Маррэй. На поўдні і палудзенным усходзі ад Лясіні мы глыбока ўрэзаліся ў лес Текур. Вострые францускіе контратакі адкінуты. Мы ўзялі каля 8.000 палонных і гарматы. На фронці ад Уазы да Рэймс—бяз зьмен. Месцовые бітвы на поўначы ад Эн, на паўночным заходзе ад Шато Т'еры і пры Врэні далі палонных.

Учора зьбіты 36 варожых самалётаў і 6 прывязных лятучых шароў.

КІЕУ (В.Т.Б.). «Кіеўск. Мысьль» наказывае, што паўстаньне казацкага насяленьня проці большэвікоў у Кубані ўсё болей разрастаецца. Казакі пачалі наступленьне ад Темрука проці Анапы і Новарасейска і дайшлі да берагу Кубані.

У Мэліґполі перахоплена іскровая тэлеграма большэвікоў с Ташкенту ў Маскву. У ёй гаворыцца, што палажэньне тамтэйшага савецкага ўраду с прычыны голаду, халеры і безрабоцьця вельмі папсавалося. Ташкенцкая рада дамагаецца прысылкі заразжэ збожжа і 10 мільёнаў рублёў на патрэбы рады. Аднак, просьба гэта ня можэ быць споўнена, бо Туркестан адрэзан ад Расеі вайскамі Дутова і чэска словацкімі дружынамі.

МАСКВА (П.Т.А.). Спаўніцельны камітэт прыняў прэдлажэньне большэвікоў аб'явіць мобілізацыю селан і работнікаў у адзін тыдзень. Гэты крок учынен с прычыны агітацыі контррэволюцыянераў, каторые хочуць выкарыстаць емінны крызіс, каб вярнуць панаваньне капіталістаў і земляўласнікаў.

БЭРЛІН. Аб труднасьцях, якіе выяўляюцца пры ладжэньні «народнае арміі» ў Расеі, сьведчыць цыркулярнае пісьмо савецкага ўраду. Загад ураду аб арганізацыі месцовага ваеннага ўпраўленьня ня споўнен, — ды з гэтае прычыны, як відаць, німа як арганізаваць чырвоную армію.

29 мая, пад націскам контррэволюцыйнага руху, цэнтральны спаўніцельны камітэт савецкага ўраду разгледаў пытаньне аб агульнай ваеннай павіннасьці. Пераход с сыстэмы дабравольнай да сыстэмы прымусовага набору рэкрутаў пастаноўлен усімі галасамі проці 4. Ваенны камісарыат атрымаў загад у адзін тыдзень апрацаваць плян набораў у Маскве, Донскай і Кубанскай абласьцях—значыць, там, дзе найбольш баяцца контррэволюцыі.

БЭРЛІН. Прэзыдыум камісіі і падкамісіі нямецка - ўкраінскага таварыства прынялі ўчора рэзолюцію, вітаючы нямецкую палітыку на Украіне і пастанову Нямеччыны паддзержываць свабоду і дзержаўную незалежнасць украінскага народу. Рэзолюцыя вітае забаспечэньне праўных норм на Украіне і аддачу зямлі ўкраінскім селянам за плату, паддзержываючы прынцып асабістае ўласнасьці. Рэзолюцыя дамагаецца шырокага стасаваньня ўкраінскіх нацыанальных сіл пры будаваньні дзержавы і ўпраўленьня, украінізацыі школьнае справы, асабліва народных школ і нацыаналізацыі ўкраінскай царквы.

БУКАРЭШТ. Румыснкіе газэты наказываюць, што англічаньне зусім запанавалі ў паўночнай Расеі і ў портах Белага мора. Англіцкі камэндант мае дыктатарскую ўласць над усім узьбярэжжэм. Тарговля пераходзіць у англіцкіе рукі. Расейскіе падданые прымушэны прасіць пазваленьня на тарговлю ў англіцкае ўласьці. Устаноўлен англіцкі кантроль пашпартоў. Адным словам, гэта часць Расеі памалу абертаецца ў англіцкую калонію.

КІЕЎ (В.Т.Б.). 8.VI. Галава рады кубанска-чорнаморскае рэспублікі тэлеграмай давёў да ведама расейскай мірнай дэлегацыі, што, апрыч спаўніцельнага камітэту рады народных камісараў, на Кубані німа ніякае іншае ўласьці і што ядыны прэдстаўнік на мірнай конфэрэнцыі ёсьць прэдстаўнік расейскай савецкай рэспублікі, часьць каторай становіць кубанска-чорнаморская рэспубліка.

ГААГА. Бэльгійскі ўрад заявіў перад усімі ўрадамі пратэст просі арганізацыі ў Бэльгіі нямецкіх судоў, бо гэта нязгодна з міжнародным правам.

«Nordd. Allg Ztg.» адказывае на гэта, што арганізацыя нямецкіх судоў вызвана забастоўкай бэльгійскіх юрыстаў.

ГААГА. 8.VI. Адкрыта англіцка-нямецкая конфэрэнцыя аб замене ваенна-палонных. Будуць разгледжэны 6 пунктаў, зьвязаных з заменай.

Чароднае заседаньне—ў панядзелак.

## Прызнаньне незалежнасьці Беларусі.

КІЕУ. 3.VI. У канцы мінулага месяца дэлегацыя Беларускае Народнае Рэспублікі зьвярнулася да расейскай мірнай дэлегацыі і падала галаве яе, Раковскаму, ноту апавешчаючы незалежнасць Беларускае Народнае Рэспублікі і гаворачы аб патрэбе прызнаньня расейскім савецкім урадам незалежнасьці Беларусі.

С прычыны таго, што галава расейскай дэлегацыі не ўважаў сябе ўпаўнамочэным даць які колечы адказ на гэта, ён зьвярнуўся аб інструкцыі да рады народных камісараў.

*Украіна прызнала Беларускую Народную Рэспубліку.* («Дз. П.»).

## Да родных ніў.

С кожным днём узрастае число людзей, каторые пасьля доўгай вандроўкі па чужых кутох варочаюцца да роднага краю. Многа пережылі яны там за паўтрэця году разлукі с сваім краем, — перажылі ўпадак царскага панаваньня, рэволюцыю Львова і Керэнскага, а ўрэшці — большэвіцкі перэварот, каторы перэвярнуў уверх дном усё жыцьцё Расеі, яшчэ так недаўна выдаваўшаяся гэткім моцным, ненарушымым. А ўсё, што бачылі іх вочы, што перажыла іх душа, не магло не пакінуць глыбокага сьледу на іх думках і настраеньнях.

С чым-жэ прыедуць да нас нашы браты-высяленцы? Што прынясуць да родных хат?

Аб усей масе беларусаў, якіе так крэпка рвуцца назад да сваё Бацькаўшчыны, можна ўжо судзіць паводлуг паадзінокіх людзей, каторым ужо ўдалося сюды перэбрацца. А першае, што кідаецца ў вочы, гэта тое, што ўсе аказаліся вельмі далёкімі ад таго, што цяпер творыцца ў Расеі, — далёкімі як ад большэвіцкага шалу, так і ад ідэолёгіі контрэволюцыі.

Большэвізм ня мог пусьціць глыбокіх каранёў у беларускую эміграцкую масу, а так жэ салдатоў перш за ўсё таму, што яны на маскоўскай зямлі чулі сябе ўвесь час чужымі. Рух да разьдзелу зямлі, да нішчэньня панскіх двароў іх не агарнуў, бо ім, як чужынцам, як дачасным гасьцём, не было пры гэтым месца: зямлю дзялілі маскоўскіе селяне толькі між сабой. Салдаты-беларусы, быўшые на фронці, не сьпешаліся ўцекаць с пазыцый, бо іх хаты асталіся за фронтам. Думкі іх плылі далёка-далёка, да свае Бацькаўшчыны; яны хацелі бы бачыць родны край вольным і незалежным. І вось яны пачалі перэклікацца, зьбірацца ў грамаду, пачалі арганізавацца ў беларускіе нацыанальные палкі і дывізіі — с цьвёрдай верай, што воля і незалежнасць не даюцца дарма, а вымагаюць ахвяр с крыві і жыцьця... Гэта ізноў пасеяло сваркі між беларусамі і большэвікамі. На гэтым грунці пачалася барацьба між большэвікамі і беларускімі нацыональнымі ідэаламі. І, ня гледзячы на разгоны зьездаў, на роспуск беларускіх войск і т. п., нацыанальны ідэал перэважыў.

Мы чулі, што ў Маскве ёсць беларускі большэвіцкі комісарыат, што там выходзіць беларуская большэвіцкая газэта. Але і між тымі — праўда, вельмі ня чысьленымі беларускімі „большэвікамі" мы бачым дзіўные настраеньні: яны вострэ распраўляюцца з беларускім „нацыяналізмам", з беларускімі „буржуямі", якіе прыкладаюць сваю руку да будзваньня незалежнае Беларусі, — аднак, прыслухоўваюцца да чутак з роднае Зямлі, друкуюць кожную вестку аб рабоце сваіх братоў, аб апавешчэньні незалежнасьці Беларусі і т. д.

Бязспорна, расейская рэволюцыя зрабіла ў думках беларускіх уцекачоў і салдатоў у Расеі глыбокі перэварот: яна забіла, вынішчыла да званьня астаткі прыгоннай псыхалёгіі. Гарачые праменьні волі сагрэўшы іх зьбяднеўшые, замораные душы, зрабілі з іх вольных грамадзян свайго краю, збудзілі пачуцьцё чэлавечай гордасьці, пачуцьцё свае цаны. І да нас вернуцца ўжо ня тые людзі, каторые пакорна падстаўлялі свае сьпіны пад нагайку вураднікаў і цалавалі ў руку кожнага, хто выглядаў на „пана". Прыйдзе вялікая і дружная грамада сыноў Беларускае зямліцы, каторые з усіх сіл сваіх возьмуцца за адбудову зруйнаванага вайной краю і ўліюць новае жыцьцё і новые ідэалы ў пуставаўшые дагэтуль вёскі.

*І. Мелешка.*

## «Вільня—Менск».

Дзеля пазнаньня нашага краю і народу яго мала ўгледацца на тое, што ў нас ёсць цяпер: лішне доўга жылі мы паднявольным жыцьцём, лішне доўга чужацкая рука нішчыла безміласэрна нашы адвечные культурные здабыткі, стараючыся прыдаць нам то польскі, то маскоўскі характэр. Вось, каб пазнаць праўдзівае аблічча нашае Зямлі, трэба глянуць назад —у глыб мінуўшчыны, трэба пазнаёміцца с тым, што народ тутэйшы тварыў сваім рукамі ў часох незалежнага жыцьця.

З гэтага пагляду мы шчыра вітаем адкрыцьце ў Вільні выстаўкі старасьвеччыны і мастацкіх вырабаў пад названьнем „Вільня — Менск". Ня гледзячы на тое, што выстаўка гэная—невялічкая, аднак, яна ўмініятуры дае даволі рознастаронны абраз артыстычна-рамесьніцкага творства мінулых лет. І ад першага пагляду рэз-

ка кідаецца ў вочы характэр тутэйшага творства: характэр гэны ў Вільні нічым ня розьніцца ад Менска, бо і тут і там выявілася тая-ж самая індувідуальнасць народу Беларускага, бо ўсё, што бачым на выстаўцы, носіць сьляды рук і душы беларускай.

Па-праўдзі, выстаўка носіць *чыста беларускі характэр*: хоць арганізатары паставілі яе на краёвым грунці, яна іншай быць не магла, бо *іншага творства тут не было*. Як з адходам расейскіх войск счэзлі да званьня сталетніе сьляды маскоўскага панаваньня, так счэзьне накінены нашай старонцы зьверхні польскі налёт над дружным напорам збудзіўшыхся нанова да жыцьця творчых сіл Беларускага народу.

Найстарэйшые рэчы — гэта памяткі па князёх беларускіх—сыгнэты, крыжы, напалавіну паганскіе „зьмеявікі“, пачынаючы ажно ад 1000 га году. Цэлы рад памятак з 11, 12, 13, 14 і т. д. вякоў. Далей—рукапісные сьвятые кнігі сьперша ў боўгарскай мове з беларускімі аб ясьненьнямі (ад 1400 году), пасьля — ў беларускай, с пекна маляванымі міньятурамі. (зусім напамінаючымі фрэскі ў Троцкім замку) пісаные пекным пісьмом. Асабліваю ўвагу зварочывае арабскі рукапісь — тлумачэньні Корану *на беларускую мову*, толькі пісаные арабскімі літэрамі (с „Сорак-Татар“, пад Вільняй, 16—17 ст.). А побач—першы друк кірыліцай с 1491 году Швэйтопольта Фіоля с канцом у беларускай мове; тут-жэ — знамяніты „Літоўскі Статут“, друкаваны пабеларуску ў 1588 г.—ў тэй самай мове, ў якой быў напісан. Чысьленые дакумэнты — князеўскіе і каралеўскіе, ўсе пісаные пабеларуску, пачынаючы ад XV сталецьця. Штыхаваные рысункі, багатая колекцыя антымінсаў, малюнкі. Старые-старые ткані куніштоўнае работы, слаўные слуцкіе паясы; шляхоцкіе і селянскіе опраткі; некалькі сот беларускіх селянскіх паяскоў. Багата золатам гафтаваные касьцельные стулы, арнаты, накрыцьці да келіхаў; касьцельнае срэбра. Старые срэбные чаркі, кубкі і т. п.—работа віленскіх рамесьнікаў. Цыновае судзьдзе, рамкі і інш. Рэзьба з дрэва—фігура Пана Езуса, Маці Божае, сьвятых—работа беларускіх селян. Шклянные вырабы с краёвых гут. Кахлі і іншые вырабы з гліны. Цікаўны каваные жалезам скрыні. Панцыры і шаломы; рыцарскі меч с XV ст. Поўны касьцюм так-званага „літоўскага“ уланскага палка, у каторым служылі спэцыяльна беларусы. Памяткі па беларускім войску. Штандар места Вільні і Троцкага замку. Пляны і віды Вільні. Урэшці—чысьленые фотографіі тыпаў беларускіх, опратак, старых беларускіх будоўляў з дрэва і цэглы—сьвятынь, замкаў, дамоў старасьвецкіх і інш. А ўсё вельмі пекна і ў ладзе разложэно і відам сваім робіць дужа прыемнае ўражэньне.

Глаўная часць выстаўленых памятак нашае мінуўшчыны — гэта плод доўгалетняе працы заслужонага беларускага архэолёга, п. Івана Луцкевіча. Часць экспонатаў сабрана ў Вільні—з местовага архіву, касьцёлаў і цэркваў, кальвінскай і лютэранскай сьвятынь і ад прыватных асоб, часць прывезена з Менска — с цэркваў, с колекцый п.п. Вейссэнгофа, Уласава, Земкевіча, Віскэ і інш. Арганізацией выстаўкі занялася рэдакцыя «Zeitung der 10. Armee“ (п. п. Гэндрыок, Франц, Браммэр), асабліва-ж папрацаваў для яе бэрлінскі архэолёг, д-р Іппэль.

Шчырая падзяка належыцца ад беларускага грамадзянства як арганізатарам, так і экспонэнтам: яны: с-пад пылу вякоў выцягнулі на сьвет Божы старое культурнае багацьце нашага народу і далі жывы доказ таго, што тут, на гэтай зямлі, беларусы жылі ад непамятных часоў, тварылі сваю культуру, мелі безпасрэдные зносіны с культурай Заходу і, трэба спадзевацца, будуць мець іх і ў будучыне, не патрабуючы ніякага „пасрэдніцтва“.

Мы шчыра жадаем, каб гэта выстаўка паслужыла за аснову пастаяннага беларускага нацыанальнага музэю, каб зробленая работа не асталася бяз сьледу для будучыны.

*Х. Х.*

## Уражэньні с падарожы.

*(пехатой па краю).*

На беразі рэчкі Мэрэчанкі стаіць двор „Качаны“. Тут ужо другі год як абаснаваўся беларускі дзіцячы прытулак. Перад домам на траўцы гуляюць і грэюцца на сонцы дзеці...

Летніе ажыўчые праменьні сонца!. З няменшай нецярплівасьцю, чымсі гэтая зялёная траўка, чымсі акружаючые дом галіны бэзу, чымсі скаваные лёдам воды Мэрэчанкі, чэкалі іх беларускіе дзеткі, —бо мінулая зіма цяжкая была для малых Качанскіх жыхараў...

Прыемнае ўражэньне робіць прытулак. Хаця ўсюды, с кожнага кута глядзіць бядота, хаця опраткі на дзецях латаные, а коўдрачкі на ложках так сама ня новые, — ўсюды пабачыш чыстасць, усюды відаць старанную апеку. .

Калі пры канцы дня пасьля вячэры ўсе дзеці сабяруцца разам са старшымі ў абшырнай кухні і, укленчыўшы перад абразом, запяюць пасьля вячэрніх пацераў „Калі дзень ужо мінае...“, радасна на душы робіцца, гледзючы на гэтые маленствы, зьвертаючыеся с песьняй да Бога ў роднай беларускай мове. І ў ціхі летні вечар песьня вырываецца праз адчыненые вокны і адбіваецца рэхам у суседнім бары. І не адзін можэ селянін, вертаючыся с поля, як да яго вуха даляціць набожная песьня ў роднай мове, затрымаецца і задумаецца: бо яго ж дагэтуль вучылі зьвертацца да Бога толькі ў мове чужацкай...

---

Калісь мястовы жыхар, выйгаўшы за места, глядзеў на засеяные палі, на загарануюю мазалістымі рукамі селяніна глебу, як на пекную вясковую дэкарацію, а на гутарку аб пасевах, ураджаі, пагодзе глядзеў, як на шаблёновую тэму для вясковых гутарак. Гады вайны навучылі нас глядзець на гэтые тэмы іначэй. Цяпер пытаньне аб ураджаі, аб патрэбе дажджа —гэта ўжо пытаньне важнае, цікаўнае, блізкае сэрцу, бо ад таго, як закалосяцца нашы нівы, залежаць будучые цэны хлеба.

— Дажджа трэба,—кажуць селяне, і мястовы жыхар абнімае кахаючым вокам засеяную ніву і глядзіць с тугой у неба, шукаючы там жаданых хмар...

---

Вечар... Вёска заціхае... Праз вокны падае на дарогу свет ад гарэючых лучын... Па хатам між дзеўчатамі нясецца кліч:

— „На май“!.. Ідзем „на май!..“

За вёскай пры дарозе стаіць скрывіўшыся стары сасновы крыж, прыбраны кветкамі, зельлем. Вось туды йдуць людзі на сваё маёвае набажэнства. Вечар сцюдзёны. Шмат хто ў кажухах.

С пад крыжа разыходзяцца словы літаніі..

Вечар халодны, зусім не маёвы; ад часу да часу вечер сарвецца і нясе словы малітвы ў выш, туды, куды глядзяць душы бедных, шэрых, сумных людзей...

— Змілуйся над намі!..

— Гляджу ў зіхацячые на небі зоркі, вусты мае машынальна паўтараюць за іншымі просьбу аб змілаваньне і... чэкаю гэтага змілаваньня.

А на небі не відаць анёла з вагністым мячом, — толькі зашуміць часам па полі вецер, толькі зіхацяць безгалосые зоркі над беднай старонкай маей...

Аднак, моц пачынае папаўняць сэрцэ маё. У душы маей робіцца ясьней. Гляджу з верай на гэные бараньні кажухі, на шэрые сьвіткі, на зложэные перад крыжам мазалістые рукі беларуса...

У руках народу меч вагністы спачывае...

*Ф. О.*

## С творау К. Каганца.

### Навасадзкае замчышчэ.

Над рэчкаю, над Слаўкаю, недалёка ад сьвятога месца Студзеньца дзе с пад дарогі на гары вада цудоўна выліваецца і спадае ў яр глыбокі, а ярам у Слаўку цячэ, а Слаўка па камянях шапочэ, — стаіць княжае гарадышчэ.

Высокіе берагі Слаўкі парасталі ўселякімі дрэвамі. Расьлі там дубэ магутные і сьветлые ясені, ільміны, кляны і алешыны, асіны трускіе і бярэзіны касатые, жэсьцярыны шурпатые і брызгеліны касьцяные, чарэмхі пахучые, — ды ці мала ўсякага было! Над усім гэтым залегла ночка цёмная. Неба было засуплено чорнымі хмарамі, а вецяр сярдзіты раз ад разу зрываўся ды с шумам і сьвістам пралетаў над гарамі, над лесамі і над тым гарадышчэм, як бы штось нядобрае павешчаючы.

Усе ў гарадышчы тым спалі,—спалі і ў месьці, што лежало ў вілах паміж Слаўкі і Вусы ракі. Адна толькі ў гарадышчы душа ня сьпіць, усё па валу ходзіць і знаць думу цяжкую думае, бо аж пот на белым лобе выступае пэрлістымі кроплямі.

---

*Францішк Олехновіч.*

# На Антокалі.

п'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 46).

---

ІГНАТ.

Пан Вінцэнты! не выпадае!

ВІНЦЭНТ.

Кажы мне: тата!—і пацалуйцеся ...Зоська!

МІХАЛІНА.

А дай ты супакой! здурнеў ці што! што робіш?!

ЮЗЮК,

(каторы дагэтуль сядзеў сумны, як Вінцэнт сказаў: „пацалуйцеся“ ўскочыў з мейсца. Цяпер стаіць прад Вінцэнтым, грозючы): Пан майстра!!!

ВІНЦЭНТ.

Чаго хочэш?

МІХАЛІНА.

Пан Язэп!

(разам)

ЮЗЮК.

Пан майстра!

ВІНЦЭНТ.

Чаго ты крычыш?

ЮЗЮК.

Пан майстра! я... я... вось тут (б'ецца ў грудзі) маю сэрцэ, яно б'ець у грудзёх, — тут... (б'ець кулаком у стол) я маю кулак а — ён так сама б'ець!.. Я не пазволю, каб Зосю...

ВІНЦЭНТ.

Ен п'яны!...

ЗОСЬКА

(кідаючыся між іх).

А вы што тут нос свой сунеце! якое вы маеце права на гэта? што вы тут за абаронца такі? што вы тут мне радня? якое права? Чаго тут свае тры грошы садзіць, гдзе вас не пытаюцца! Вы што для мяне?, чужы! я ж вам нічога не абецалася!..

ЮЗЮК.

Вось як?! Выбачайце, я абмыліўся, я ня ведаў — я ўлез не ў сваё дзела, я чужы! выбачайце! (выбегае на вуліцу).

**З'ява 9.**

ТЫЕ-Ж без ЮЗЮКА.

МІХАЛІНА (да Юзюка).

Вы ж ня скончылі абедаць!..

ВІНЦЭНТ.

П'яны! Далібог п'яны... як нябоскае стварэньне — а бойкі! А каб ты згарэў!..

МІХАЛІНА (да Вінцэнтага).

Уся авантура праз цябе! Ты заўсёды глупства наробіш!

ВІНЦЭНТ.

А мая-жты, Міхця! А яму-ж якое дзела?

МІХАЛІНА.

Зосечка! аднясі ў кухню брудные талеркі!

ЗОСЬКА

(бярэ талеркі і выходзіць).

ІГНАТ.

Гэта, далібог дзіва! Якое ён мае права тутака падымаць свой голас?

ВІНЦЭНТ.

Але Зоська яму нагаварыла добра! Пайшоў аблізаўшыся. Бойкая дзяўчына!

МІХАЛІНА.

Добра яму так! Хай многа сабе не пазваляе!

**З'ява 10.**

ТЫЕ-Ж і ПЯРОВІЧ.

МІХАЛІНА.

А хто-ж гэта там?

ПЯРОВІЧ.

Выбачайце, — ці тут жыве пан Радзівілловіч Ігнат?

МІХАЛІНА.

Але, тутака!

ІГНАТ (устае).

А—гэта да мяне! (Да Пяровіча): Гэта я! Вы маеце да мяне патрэбу?

ПЯРОВІЧ.

Ці не перэшкаджаю?

ІГНАТ.

Не.. што ж... калі патрэба...

ПЯРОВІЧ.

Мы незнаёмы... Я — Пяровіч... (падае руку).

ІГНАТ.

Калі доўгі інтэрас — дык прашу ў мой пакой.

ПЯРОВІЧ.

Не; толькі два словы. Вы, панок, сьмею папытацца, — чыноўнік с почты?

ІГНАТ.

Але.

ПЯРОВІЧ.

Праўда, вы не спадзеваліся гэтага?

А хто гэта ходзіць, як не княжна, слаўная красою і багацтвамі сваімі? Яна і ростам высока, і с твару красна, хоць не так-то ўжо малада, — і поўные грудзі яе высока паднімаюцца, і вочы яе карые аж у цемнаце сьвецяцца, а буйные косы яе вецяр па воздусе трэпле.

Ходзіць княжна гордаю ступою, ды на сэрцы ў яе, знаць, дужа нявесела, бо ўсё: то рукі заломіць, то млосна іх апусьціць, то ўздыхне цяжка, як канаючы, то аберуч галаву сьцісьне, вачыма сьмялей у даль гляне і зa ходзіць байчэйшаю ступою; то ізноў яе сэрца зойдзецца, рукі па́віснуць і вочы затуманяцца, і ногі як бы падкашывацца стануць. Але вось на штось яна канпом адважылася. Пайшла хуткаю ступою ў гарадышчэ, чэлядзь сваю будзіць, прыказывае ўсё багацтва зьбіраць і, што дарожшае, тое ў скрыню кавану кладзе, а што меней варта, тое чэлядзі раздае. Сабраўшы ўсё і спакаваўшы, скрыню зачыніла, на тры замкі замкнула, а ключы на залаты паясок нанізала і сама імі падперэзалася. Тады, сеўшы на скрыню, горка заплакала і кажэ:

— Німа ў мяне ні шчасьця, ні долі, ні вернага друга... Німа с кім дзяліцца ні сваёю красою, ні каханьнем, ні багацтвам вялікім, — а моладасць мая ўцекае. Твар мой белы пажаўцеў, грудкі мае поўные сталі павядаці, вочкі мае карые — лінаці; буйные косы сталі выпаўзаці, сэрца-ж маё стало заміраці. Нехай жэ калі так, я згіну і ўсё са мною: і думкі мае, і каханьне маё, і краса мая, і багацтва маё, бо так сіратліва жыці немагчыма мне!..

І прыказала сваім служкам прывязаці сябе да скрыні і кінуць у калодзіж вельмі глыбокі і поўны вады, што ў тым гарадышчы на дворы быў.

Загула-зараўла навальніца з неба,—з громам, з градам, с пярунамі ды бліскавіцамі. А прайшла навальніца—і краснай княжны не стало: кінулі яе верные служкі ў студню глыбокую.

І апусьцело зара тое гарадышчэ, а потым і зусім яго не стало, адна гара з валам ды с калодзіжам, поўным каменьняў, тое месца значуць. На месца тое скора вораг люты напаў: людзей павырэзаў, дамэ з зямлёю зраўнаваў, а тое месца людзі „Рэзанамі“ празвалі. Каму-ж Бог судзіў жывым астацца, тые трохі воддаль, на гары, пад крыніцамі пабудаваліся насупраціў таго гарадышча і Студзеньца і празвалі сваё новае селішчэ Навасадамі.

*К. Каганец.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Д-р К. Трылёўскі ў Вільні.** Вядомы ўкраінскі дзеяч, арганізатар украінскіх стральцоў—січаўнікоў, член венскага парлямэнту д-р Кірыла Трылёвскій у падарожы з Бэрліна і Коўны заехаў у аўторак, 4 чэрвеня, у Вільню.

У той-жэ вечар д-р Трылёвскій быў у Прэзыдыуме Беларускае Рады, а назаўтра раніцай пакінуў нашае места.

× **Беларускі Камітэт** за месяц май выдаў дармовых абедаў 2947, у тым ліку праз Беларускую Народную страўню № 31 (сьв Юрскі пр. 22) выдано 2092 абеды, а бонамі да іншых—855.

Абеды выдаваліся пераважна дзецям, часьцю—бедным хворым і старым.

× **Выстаўка „Вільня—Менск“.** Выстаўка адкрыта афіцыяльна ў сераду, 5 чэрвеня, а 5 гадз. вечара, глаўнакамандуючым 10 арміі, генэралам ф. Фалькенгайнам. Адкрыцьце для публікі адбылося на другі дзень—у чацьвер, а 10 гадз. раніцы. На адкрыцьце сабраліся: прэзыдыум і члены Беларускай Рады, в-прэзэс Беларускага Навуковага Таварыства, прэдстаўнікі беларускай прэсы і т. д., ўрэшці —госьці с Пецярбурга: члены прэзыдыума цэнтральнай арганізацыі гродненскіх уцекачоў і інш.

Выстаўка памешчаецца ў доме б. Таргова-Прамышленага Клюбу, сьв. Юрскі пр. 35, і адчынена кожын дзень ад 10 да 8 гадз.

× **Музычна-дэклямацыйная вечарына.** У аўторак, д 11 чэрвеня ў канцэртнай салі на Вароняй вул. будзе сямейная вечарына Работніцкага Клюбу з багатай праграмай, у каторай будуць: сымфонічны оркестр, дэклямацыя ў розных мовах і г. д. Пачатак а 7½ гадз. у вечары.

× **Выдача сухіх прадуктаў.** С прычыны жаданьняў чысленых асоб больш заможнага стану, Stadthauptmann пастанавіў даць магчымасць перапісывацца з народных стравень да мястовых крамаў і замест зупы атрымліваць сухіе прадукты. Перапісывацца можна толькі цэлымі сем'ямі, ды пры гэтым ад кожнае асобы трэба аднаразова заплаціць па 5 марак. Хто хочэ атрымліваць надалей сухіе прадукты, павінен запісацца на іх у сваім хлебным бюро.

× **Фальшывые чуткі.** „Wilnaer Ztg.“ апавешчае, што ўсе чуткі аб спадзеваным закрыцьці мястовага лёмбарду фальшывые і кажэ, што іх пускаюць скупшчыкі розных рэчаў, каб гэтак вызваць у людзей недаверые да лёмбарду.

× Тэмпэратура. Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 6 — | + 14,8° | + 4,2° |
| 7 – 8 | + 18,1° | + 7,0° |
| 8 — 9 | + 16,2° | + 9,7° |
| 9 —10 | + 20,7° | + 7,8° |

## Прароцтвы аб пагодзі.

Мы ўжо ўспаміналі аб працах п. Ст. Падберэскага, каторы 25 гадоў рабіў досьледы аб зьменах пагоды ў нашым краю. Цяпер, на просьбу яго, друкуем прысланые нам рэзультаты яго работы.

„Баромэтр, як прылада дзеля прароцтва пагоды, мае вялікую вагу для хлеборобаў, але дзеля далейшае мэты яго помала. Ядыная крыніца, дзе можна шукаць разьвязкі гэтага пытаньня, гэта—законы, якіе кіруюць атмосфэрычнымі пераменамі. За аснову дзеля прароцтва пагоды на месяцы і гады можна ўзяць заўважэную у прыродзі падобнасць — у прыбліжэньні, у агульных рысах з некаторымі ваганьнямі—двох чародных дзесяцілецьцяў і двох чародных пэрыодаў: кастрычнік — марэц, красавік—верасень, у чэрэдаваньні падобных да сябе гадоў і месяцаў: напр., 1900 год падобны да 19 0, 1901 - да 1911, 1902—да 1912 і т. д.; кастрычнік 1900 году падобны да красавіка 1901; лістапад 1900—да мая 1901; марэц 1901 — да верасьня 1901 і т. д.

„Апіраючыся на памянутых дзьвёх асновах падобнасьці гадоў і месяцаў, мы можэм болей-меней прарочыць пагоду на шасьцімесячны пэрыод — ад красавіка да верасьня з некаторымі ваганьнямі. Аднак, я хачу асабліва адзначыць слова „падобнасць“, бо ўсе прароцтвы даю толькі болей-меней точна.

„Спадзеваная пагода на шэсць месяцаў—ад красавіка да верасьня 1918 году ў нашым краю мае быць гэткая:

**Красавік:** суха, халады; каля 30—прымаразкі.

**Май:** халодны, вільготны.

**Чэрвень:** мала цепла; лічэные гарачые дні, вільготны; крыху дажджу—ў меру патрэбы.

Ад **2 ліпня** да **16 жніўня**—благая пагода на 6 тыдняў, з лішкам вільгаці. Мае дзяліцца на тры пэрыоды:

першы двохтыднёвы пэрыод ад 2 да 16 ліпня: буры, навальніцы, ветры; спадзеваные крытычные дні з навальніцамі—каля 2, 6, 11 і 15;

другі двохтыднёвы пэрыод ад 17 ліпня да 1 жніўня—блізка неустанная слата, без навальніцы, бяз сонца, бяз ветру;

трэйці двохтыднёвы пэрыод ад 2 да 16 жніўня; першы тыдзень блізка ўвесь пагодны, другі—дажджлівы;

Дзень 16 жніўня можна лічыць апошнім днём благой пагоды.

**Другая палова жніўня:** суха, адзін раз перэпадзе дождж.

**Верасень:** суха.

„На гэтым канчаецца прароцтва пагоды на памянутые шэсць месяцаў—ад красавіка да верасьня. Апіраючыся на рэшце агранічэных і няпэўных данных, я прабую схарактэрызаваць пагоду на два чародные месяцы: кастрычнік і лістапад 1918 г.:

**Кастрычнік**—суха, холад.

Каля **2 лістапада**—пачатак зімы; земля замерзьне на-суха, без папярэдняе восеннай слаты.

*Стэніслаў Падберэскі.*

# З усяго Краю.

### З Менскага жыцьця.

= Па загаду глаўнакамандуючага 10 арміей генэрала ф. Фалькэнгайна менская местовая рада (дума), выбраная яшчэ пры большэвіках распушчэна. Адначасна назначэны новые члены ўправы, каторая складаецца з гэткіх асоб: Г. Каплана, В. Цывінскага, Н. Нэйфаха, В. Запольскага-Доўнара і д-ра І. Кодіса

4 чэрвеня ў габінэце галавы места Менска, С. Хржонстоўскага, пры граданачальніку і прэдстаў-

ІГНАТ.

Чаго?

ПЯРОВІЧ.

А дык гэнай спадчыны...

ІГНАТ.

У ва сьне, не бачыў.

ПЯРОВІЧ (здаволены).

Га! што? Гэта я выкапаў! Гэта мой нос! каб не я — то дагэтуль яшчэ ніхто-бы нічога аб гэтым на ведаў.

ІГНАТ (саромліва).

Дзякую вам...

ПЯРОВІЧ.

Німа за што — мая павіннасць трымаць руку на пульсе грамадзянскага жыцьця!... Пазвольце папытацца, што-ж вы думаеце рабіць цяпер? Паедзеце за граніцу? Га? што?

ІГНАТ.

Ды не... Куды там!.. Астануся мусіць тутака ў Вільні.

ПЯРОВІЧ (запісывае).

Тутака... Мільёны астануцца ў бацькаўшчыне...

МІХАЛІНА,

(стаяла дагэтуль з Вінцэнтым здалёк, уважна слухаючы). Выбачайце, ці гэта для паліцыі?

ПЯРОВІЧ.

Фі, пані! Я ніколі не працаваў у гэтай інстытуціі... Мне загадано зрабіць інтэрв'ю нашым мільянэрам.

ВІНЦЭНТ (да Міхаліны).

Што зрабіць?

МІХАЛІНА.

Ціха! не перэшкаджай! Гэта, мусіць, нейкі фактар.

ПЯРОВІЧ.

Будзьце, панок, ласкавы сказаць мне трошкі... некалькі важнейшых ф ктаў с свайго жыцьця, каб я мог напісаць вашу біяграфію.

ІГНАТ (перэпужаўшыся).

Выбачайце, а на што гэта? у мяне пашпарт у парадку... Вайсковую павіннасць адбыў так сама. .

ПЯРОВІЧ.

Я-ж вам, здаецца не па францускु сказаў, што гэта для газэты... Заўтра прачытаеце аб гэтым...

ВІНЦЭНТ (да Міхаліны).

Вось бачыш!...

ІГНАТ.

Калі гэта будзе шмат каштаваць, то ня трэба.

ПЯРОВІЧ.

Супакойцеся, зраблю гэта дарма. Да Міхаліны): Вы, панечка, пэўне жонка нашага малайца?

МІХАЛІНА.

(паказываючы на Вінцэнтага).

Не... Гэта мой муж...

ІГНАТ.

Я яшчэ не жэнаты...

ПЯРОВІЧ.

Ну вось!... І нічога ня кажэце! Гэта цікаўна!.. значыцца ўсе грошы пасьля сваей сьмерці перэказывае дабрачынным установам!.. (запісывае).

ІГНАТ.

Каму?

ПЯРОВІЧ.

Так, значыцца, і запішэм... Заўтра памятайце купіць газэту. Зраблю аб вас такі артыкулік, што ўся Вільня чытаць і аб вас гаманіць будзе... Бывайце здаровы!

ІГНАТ (затрымлівае яго).

А дык пан з газэты?! Цяпер я сьцяміў!. Выбачайце, панок, вы пэўне ўсё добра ведаеце, ваша газэта першая аб гэтым пісала..

ПЯРОВІЧ.

Мы ўсё ведаем!

ІГНАТ.

Гэты мільён—ці тэта тая самая лінія Радзівіллловічаў,—бо мяне зрадзіў Амброжы, а Амброжага...

ПЯРОВІЧ (ня слухаючы).

Амброжы?... —тая самая!... Бывайце здаровы! Купіце заўтра газэту!.. (выходзіць).

**З'ява 11.**

ТЫЕ-Ж без ПЯРОВІЧА.

ВІНЦЭНТ.

Вось шчаслівы! аб ім і ў газэтах пішуць!

МІХАЛІНА.

Вось вялікае шчасьце! Як уп'ешся і скандал які зробіш, то і аб табе напішуць.

ВІНЦЭНТ.

Дык і гэта слава!

ЗОСЬКА

(увайшла ў часі апошніх слоў Пяровіча). Мама! хто гэта быў?

МІХАЛІНА.

Нейкі пан з газэты. Многа казаў, а я мала зразумела.

ВІНЦЭНТ.

І я мала зразумеў.

(Далей будзе).

